№9 (9)
8—15 верасня 1995 г.
Выдаецца
на беларускай і рускай мовах
Тыраж 85 000 экз.
Кошт у розніцу — 700 руб.

# Народная Воля

ЗАСНАВАЛЬНІК ІОСІФ СЯРЭДЗІЧ



Газета сверстана
на компьютерах
"ЛИНТЕК"

*Президент Республики Беларусь А.Лукашенко подписал указ об упорядочении некоторых льгот для отдельных категорий граждан.*

*В следующем номере "Народная воля" расскажет подробно о том, кого и каких льгот лишил этот документ.*

## Сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

## погляды на вострыя моманты

**Паколькі сесія працуе з аўторка і рэдакцыя газеты "Народная воля" не мела магчымасці публікаваць аператыўныя рэпартажы, а рабіць гэта са спазненнем няма сэнсу, мы пайшлі па іншаму шляху: вырашылі надрукаваць фрагменты тых выступленняў, у якіх сфакусіраваны погляды на вострыя моманты нашага жыцця.**

**Права на каментарый рэдакцыя пакідае за чытачамі і апанентамі выступаючых на сесіі Вярхоўнага Савета.**



*Мечыслаў ГРЫБ,*
*Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:*

## Няхай мацнее "вертыкаль", няхай мацнеюць і Саветы

...Хачу адзначыць, што мы падтрымліваем у цэлым умацаванне выканаўчай улады і прэзідэнцкай вертыкалі ў рэспубліцы. Разглядаем гэта як з'яву натуральную і істотную, якая абгрунтавана самім ходам развіцця грамадства. Але мы цвёрда перакананы, што адначасова павінна адбывацца і ўмацаванне прадстаўнічай улады, улады Саветаў — як Вярхоўнага, так і мясцовых, а таксама і судовай улады. Толькі пры такіх умовах можа і павінен развівацца дэмакратычны лад у краіне. Гэта — аксіёма, якая праверана жыццём і гісторыяй развіцця цывілізаваных грамадстваў. На жаль, мы не можам гэтага сказаць адносна становішча ў нашай дзяржаве, і асабліва ў апошні час. Выканаўчая ўлада імкнецца ўмацаваць свае пазіцыі, а прадстаўнічая і ў пэўнай меры судовая ўлады паволі адцясняюцца, іх роля і месца ў грамадстве падмяняюцца. І гэта не можа не трывожыць не толькі дэпутатаў, але і кожнага сумленнага грамадзяніна рэспублікі.

Не вытрымліваецца захаванне сістэмы супрацьвагаў улад, і гэта непазбежна ўжо вяло і будзе прыводзіць надалей да парушэння законаў і нават самой Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Як вядома, артыкул 79 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь вызначае, што найвышэйшым прадстаўнічым і адзіным заканадаўчым органам дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь з'яўляецца Вярхоўны Савет. А гэта азначае, што толькі ён і ніхто іншы не мае права прымаць заканадаўчыя акты, уносіць змены, прыпыняць іх дзеянне і нават у тым выпадку, калі Вярхоўны Савет зусім не будзе дзейнічаць.

Тым не менш у апошні час без усялякай нават спробы ўзгаднення з Вярхоўным Саветам унесены змены ў Закон аб дзяржаўным бюджэце на 1995 год, адменена ці прыпынена дзейнасць шэрагу заканадаўчых актаў, якія датычацца абароненасці правоў не толькі дэпутатаў, а і іншых катэгорый грамадзян.

Кіраўніцтвам спраў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь гвалтоўна захоплена маёмасць Вярхоўнага Савета (аўтабаза, вытворчае аб'яднанне "Кастрычніцкае" з гасцініцай і сталовай). Не выдзяляюцца сродкі на ўтрыманне Вярхоўнага Савета, прадугледжаныя бюджэтам. Дэпутатам не выплачваюцца грошы, прадугледжаныя заканадаўствам на ажыццяўленне іх дзейнасці. Затрымліваецца выплата ім заработнай платы. Кабінет Міністраў і міністр фінансаў, зацверджаныя, дарэчы, Вярхоўным Саветам, спасылаюцца пры гэтым на нейкія распараджэнні і ўказанні, якія забараняюць ім выконваць законы. Але па маіх неаднаразовых просьбах і афіцыйных запытах ніхто не прад'явіў мне дакументы, якіх, відавочна, проста не існуе.

Праваахоўныя і судовыя органы, у тым ліку Канстытуцыйны Суд, беспрынцыпова адносяцца да кантролю за выкананнем законаў, адпаведнасці прымаемых выканаўчай уладай нарматыўных актаў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Зусім простая і знаёмая справа аб маёмасці Вярхоўнага Савета ўжо другі год знаходзіцца ў Канстытуцыйным Судзе, канчаткова не вырашана, а маёмасць тым часам, як я казаў вышэй, ужо захоплена.

...Я асабіста не падзяляю выказванні, якія гучаць у апошні час аб палітычным аб'яднанні, у першую чаргу Беларусі з Расіяй і Украінай, у новы саюз на падставе федэрацыі, канфедэрацыі ці чаго-небудзь іншага. Для гэтага як мінімум патрэбна не толькі згода Расійскай Федэрацыі і Украіны, але і роўныя ўмовы для аб'яднання. Гэтага я пакуль што не знаходжу.

Я мяркую, што вырашаць гэтае пытанне такім чынам немагчыма. Гэта шлях у нікуды. І не трэба ўводзіць людзей у зман, гаворачы ім аб аднаўленні саюза ў хуткім часе.

Заўсёды трэба ўлічваць эканамічныя інтарэсы і палітычныя абставіны ў кожнай краіне. Людзі памятаюць, што атрымалася ў 1994 годзе з ідэяй аб'яднання грашовых сістэм. Беларусь панесла немалыя эканамічныя і маральныя страты. Таму да крокаў у бок аб'яднання, якія напрамкі яно ні насіла б, трэба падыходзіць вельмі асцярожна і ўзважна.

Дарэчы, у сваёй прамове на святкаванні гадавіны незалежнасці Украіны прэзідэнт Леанід Кучма сказаў, што цяжкае эканамічнае становішча выклікала ў часткі насельніцтва краіны настальгію па былым савецкім часе, "ілюзіі, быццам бы Украіну выратуе новы саюз". Кіраўнік гэтай краіны катэгарычна заявіў, што іх краіна ні ў якія аб'яднанні ўступаць не збіраецца, і будзе працягваць ісці самастойным шляхам, весці пошук "украінскай мадэлі" пераходу да рынку.

*Владимир САПРОНОВ, секретарь Комиссии по экономической реформе, достижению экономической самостоятельности и суверенитету республики:*

## "В первую очередь должны быть легализированы и открыты все финансово-хозяйственные дела в высших органах власти..."

Наши граждане, на мой взгляд, имеют конституционное право на то, чтобы знать, куда и как расходуются бюджетные деньги. Они являются налогоплательщиками. В первую очередь должны быть легализованы и открыты все финансово-хозяйственные дела в высших органах власти государства. Должны быть нормальные отношения между властью и налогоплательщиками, гражданами Республики Беларусь. Поэтому мое предложение очень простое: создать временную депутатскую комиссию, которой нужно дать соответствующее поручение провести в течение двух месяцев проверку финансово-хозяйственной деятельности Секретариата Верховного Совета и учреждений, имеющих право юридического лица обеспечивать жизнедеятельность президента. Имеется в виду четыре юридических лица — это Администрация президента, Совет безопасности, Служба контроля Администрации президента и Управление делами президента. В соответствии с нашим законодательством все мы должны и имеем право финансироваться только за счет бюджета, и никаких других источников финансирования не может быть. А поскольку это бюджет — это наша функция. Мы обязаны все это дело проверить, доложить Верховному Совету и доложить новым депутатам Верховного Совета. Они должны знать, на какую почву приходят...

*Зянон ПАЗЬНЯК, дэпутат :*

## У сувязі з тым, што становішча дзяржавы ў крытычным стане, я лічу, што трэба ўключыць у парадак дня сесіі даклад прэзідэнта

Спадары дэпутаты! У артыкуле 100 Канстытуцыі сказана, што прэзідэнт Рэспублікі Беларусь штогод прадстаўляе Вярхоўнаму Савету даклады аб становішчы ў дзяржаве. У сувязі з тым, што становішча дзяржавы ў крытычным стане, я лічу, што гэты пункт павінен быць абавязкова ўключаны ў парадак дня.

За год прэзідэнцкай улады наша краіна перастала быць прававой дзяржавай. Ліквідаваны дэмакратычны падзел уладаў, знішчаецца інстытут парламентарызму, свабоды слова, мітынгаў, дэманстрацыі і забастовак. Парушаюцца правы чалавека. Катастрафічна расце беспрацоўе, спыняецца вытворчасць. Дзяржаўнае тэлебачанне і радыё, шматтыражны перыядычны друк манапалізаваны прэзідэнцкай уладай. Грамадству навязана аднабаковая тэндэнцыйная інфармацыя ў інтарэсах кіруючай групы людзей. Спынена развіццё беларускай адукацыі, падарваны асновы суверэнітэту дзяржавы. Прэзідэнтам Лукашэнкам і яго акружэннем устаноўлены на Беларусі антынародны дыктатарскі рэжым, які ўжо прыступіў да расправы над прафсаюзамі, нацыянальнай школай і друкам, над іншадумцамі. Прэзідэнт дэманстратыўна зневажае, не выконвае Канстытуцыю і законы краіны, груба парушана прысяга прэзідэнта, запісаная ў Канстытуцыі (артыкул 99). Палітыка, якую праводзіць прэзідэнт, вядзе да разбурэння беларускай дзяржавы, да дэстабілізацыі ў беларускім грамадстве. Я лічу, што Вярхоўны Савет тэрмінова і абавязкова павінен звярнуцца да гэтага пытання і ўнесці і заслухаць на гэтай васемнаццатай сесіі даклад прэзідэнта "Аб становішчы ў дзяржаве" згодна з артыкулам 100, пункт 6 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

## А на трибуну ни премьер, ни министр финансов не поднялись

Как известно, в повестку дня сессии Верховного Совета Республики Беларусь включен вопрос об выполнении государственного бюджета в 1995 году. Рассмотрение его должно было состояться вчера. Соответствующая информация была заранее доведена до премьер-министра, его заместителей, министра финансов, других ответственных лиц.

И вот наступило время рассмотрения архиважного, судьбоносного вопроса, а в парламентском зале — ни М.Чигиря, ни С.Линга, ни П.Дика, ни других. Что случилось? Трудно ответить. Возможно, магически повлияло постоянное утверждение президента насчет нелегитимности парламента? А может, другая причина? В любом случае остается нерассмотренным один из острейших вопросов. Да и отношения между законодательной и исполнительной властями, кажется, обостряются.

# ЗАЯВЛЕНИЕ
# Верховного Совета Республики Беларусь

В последнее время на фоне ухудшения экономического положения страны, обострения социальных конфликтов действиями и заявлениями президента Республики Беларусь и подчиненных ему руководителей исполнительной власти искусственно разжигается политическое противостояние с Верховным Советом.

Как крайнее проявление неуважения к высшему органу законодательной власти Верховный Совет расценивает отказ высших должностных лиц исполнительной власти отчитаться о выполнении бюджета государства в 1995 году. В это же время значительные суммы бюджетных средств расходуются на финансирование не самых важных потребностей общества. Нельзя не отметить, что с августа 1994 года президентом Республики Беларусь с превышением его компетенции принято несколько десятков указов, которые противоречат Конституции и законам нашего государства, ущемляют политические и экономические права миллионов граждан.

Такая ситуация опасна тем, что население республики лишается возможности контролировать действия исполнительной власти. Строгое соблюдение Конституции и законов превращается в обязанность только для простых людей. Исторический опыт свидетельствует, что попрание Конституции и законов приводит к трагическим последствиям.

Выражая крайнюю обеспокоенность таким развитием событий, Верховный Совет Республики Беларусь 12-го созыва заявляет, что до сформирования нового состава парламента он обязан выполнять свои функции в строгом соответствии с Конституцией. Верховный Совет требует соблюдения Конституции и законов и от президента, и от любого иного представителя власти.

Верховный Совет Республики Беларусь готов к конструктивному взаимодействию с президентом, но решительно отвергает неконституционное вмешательство руководителей исполнительной власти в сферу компетенции других властей.

Верховный Совет Республики Беларусь считает, что единственно приемлемой формулой отношений законодательной и исполнительной властей являются равноправный диалог, совместный поиск решений, основанные на взаимном уважении, строгом соблюдении Конституции и законов.

**Актуальна!**

## Заводы запусціць вёска

**У друку з'явіліся звесткі, што Беларуская сялянская партыя выступіла з ініцыятывай правесці "круглы стол" усіх палітычных сіл па праблеме аграрнай рэформы. Чытачам трэба даць тлумачэнне, чаму менавіта гэтая праблема з'яўляецца першачарговай.**

Ужо пяць гадоў працягваецца спад вытворчасці. Растуць цэны. Павялічваюцца беспрацоўе і злачыннасць. Няспынна пагаршаецца жыццё людзей. Самымі абяздоленымі сталі сяляне.

Чатыры гады развіцця эканомікі ў беларускага народа ўкрала каманда В.Кебіча. Найбольшыя страты яна прычыніла сельскай гаспадарцы. Бяздарнай і некампетэнтнай палітыкай, імітацыяй рэформ і бяздзейнасцю аграрны сектар краіны быў пастаўлены на калені. У любой краіне свету адказныя кіраўнікі сядзелі б на лаўцы падсудных за такія справы.

Зноў паднялі галаву недабітыя "ворагі", з'явіліся новыя: Свабодныя прафсаюзы, Карпенка, Краўчанка. Усё адбываецца па тэорыі Сталіна: чым больш перамог у прэзідэнта і яго каманды, тым больш жорсткае супраціўленне яго праціўнікаў. Значыць, ворагаў, якія мяшаюць, і далей будуць шукаць.

А тым часам эканоміка Беларусі, як аўтамабіль без тармазоў, працягвае каціцца ў бездань. У першую чаргу — сельская гаспадарка. У гэтым годзе плошча пасеваў збожжавых скарацілася на сто тысяч гектараў. Глебы бяднеюць і зарастаюць пустазеллем. Пашыраецца зона дзейнасці розных хвароб і шкодных насякомых.

Асабліва катастрафічнае становішча ў жывёлагадоўлі. Калгасы і саўгасы пускаюць пад нож свіней, бычкоў, нават дойныя статкі, каб разлічыцца за паліва і выдаць вяскоўцам хоць мізэрны заробак. Жывуць адным днём, без думкі пра будучыню.

З пачатку года сельская гаспадарка страціла 380 тысяч галоў буйной рагатай жывёлы і амаль 200 тысяч свіней. Уявіце, што гэта пагалоўе ўсёй Гродзенскай вобласці 1994 года. Працягвае зніжацца і прадукцыйнасць жывёлы. Надоі малака ад каровы за студзень—ліпень зменшыліся на 192 кілаграмы.

Спажыванне мяса на душу насельніцтва сёлета знізіцца да 40 кілаграмаў, а малака — да 270 кілаграмаў. Фактычна гэта палова навукова распрацаванай нормы. Вёска бяднее, старэе і вымірае, а Беларусь паступова рухаецца да голаду.

Не лепшае становішча ў прамысловасці, іншых галінах гаспадаркі. Фінансавая сістэма на першы погляд працуе стабільна. На самай справе не бывае рэальнай фінансавай стабілізацыі пры агульным спадзе вытворчасці. Штучнае стрымліванне долара на адным узроўні пры росце цэн — гэта яшчэ адзін рычаг дзяржавы для абкрадання народа. Асабліва пакутуюць ад такой "стабілізацыі" экспарцёры прадукцыі. Многія з іх сталі банкрутамі.

У нашы дні перад кожным чалавекам узнікае вечнае пытанне: што рабіць? Каб адказаць на яго, трэба схематычна паказаць вытокі нашай бяды. Давайце разгледзім, як мяняецца цана сельскагаспадарчай прадукцыі ад поля і фермы да прылаўка магазіна.

Калгасы і саўгасы прадаюць прадукцыю перапрацоўшчыкам за пэўную цану. Тыя ў кошт прадукцыі ўключаюць уласныя затраты і 13 (!) відаў падаткаў. Цана вырастае ўдвая. Далей прадукцыя паступае ў дзяржаўны гандаль. Там яе цана значна павялічваецца за кошт падаткаў і гандлёвай нацэнкі. У выніку спажывец плаціць за прадукты харчавання ў чатыры разы больш, чым атрымлівае вытворца.

Але не кожны можа дарагія прадукты купіць, многія зацягваюць паясы, прадукцыя своечасова не рэалізуецца. Адсюль вынікае, што тры галіны гаспадаркі — сельская, перапрацоўчая і гандаль — за сваю працу своечасова не атрымліваюць грошы. Тут працуе разам з сем'ямі амаль палова насельніцтва Беларусі. Абмежаваныя ў сродках, яны не маюць магчымасці купляць прамысловыя тавары. Ім хоць бы пракарміцца.

Вось вам і адказ, чаму заводы і фабрыкі працуюць напаўсілы ці спыняюцца зусім. Іх прадукцыю няма каму купляць, у асноўным яна ідзе на склад. Не рэалізаваўшы сваю прадукцыю, прамыслоўцы атрымліваюць нізкі заробак з вялікім спазненнем.

Усё гэта адбіваецца на падатковых зборах. Паступленні ў казну пастаянна скарачаюцца. Сведчанне таго — перабоі з выплатамі грошай бюджэтнікам і пенсіянерам.

Як бачыце, кола замкнулася. Нас завялі ў беспрасветны тупік. Безумоўна, паказаная схема спрошчана. У жыцці ўсё значна складаней. Але тэндэнцыя развіцця менавіта такая.

Як разамкнуць гэтае кола? Дзе знайсці выхад з тупіка?

Наша пазіцыя адназначная. Усё трэба пачынаць з зямлі, з сельскай гаспадаркі. Зямлі патрэбен гаспадар.

Беларуская сялянская партыя з 1991 года выступае за правядзенне аграрнай рэформы. Сутнасць яе — вярнуць селяніну права ўласнасці на зямлю і іншыя сродкі вытворчасці, права выбару форм гаспадарання і права распараджэння прадуктамі сваёй працы.

Калгасная сістэма ў цяперашнім стане нежыццяздольная. Яе трэба радыкальна ўдасканаліць. Фактычна ў нас калгасаў ніколі не было і няма. Толькі шляхам рэформы можна стварыць сапраўдную калектыўную гаспадарку. Яе члены павінны мець пай і долю маёмасці і права выхаду з калгаса з зямлёй і маёмасцю.

Дарэчы, цяпер дзяржаўныя чыноўнікі распрацоўваюць механізм падзелу зямлі і маёмасці на долі. Яны прапануюць вызначаць долю не ад стажу працы, а ад атрыманага заробку. Вядома, што большыя заробкі былі ў старшынь калгасаў і іх бліжэйшага акружэння. І тут хочуць абкрасці народ.

Зямельная рэформа — толькі пачатак. Трэба абавязкова рэфармаваць абслугоўваючыя арганізацыі і перапрацоўчыя прадпрыемствы, палову акцый іх уласнасці перадаць суб'ектам сельскай гаспадаркі. Адначасова ліквідаваць камандна-адміністрацыйную сістэму кіравання сельскай гаспадаркай. Вельмі шмат людзей, не прыносячы ніякай карысці, кормяцца ад калгасна-саўгаснай сістэмы. Яны і з'яўляюцца галоўным тормазам рэформы.

Яшчэ раз падкрэслю, што Сялянская партыя ніколі не выступала за разгон калгасаў. Драбленне зямлі — не наш ідэал. Мы прапануем ператварыць калгасы ў асацыяцыі кааператыўных гаспадарак.

У 1991 годзе ўсё гэта можна было расцаніць як тэарэтычныя разважанні. Цяпер нашы высновы пацвердзіла практыка. Дзе працуе на зямлі гаспадар — зусім іншыя справы. Так, прысядзібныя гаспадаркі, дачныя кааператывы і нешматлікія фермеры маюць на сённяшні дзень каля 15 працэнтаў зямлі, а выpабляюць 45 працэнтаў прадукцыі.

Знішчальны прысуд цяперашняй калгасна-саўгаснай сістэме робіць не Сялянская партыя, а Камароўскі і іншыя сельскагаспадарчыя рынкі рэспублікі. Там свежая і якасная прадукцыя прадаецца значна танней, чым калгасная ў дзяржаўных магазінах. Яна ідзе напрамую да спажыўца, і грошы паступаюць у момант продажу.

Сусветная практыка даказала, што не бывае багатай дзяржавы, калі бедная вёска. Аграрная рэформа на Беларусі — праблема нумар адзін. Яна вывядзе краіну з тупіка. Толькі тут можна разарваць замкнутае кола.

Не прэзідэнт, а вёска запусціць заводы, калі яна будзе багатай. А багацце вяскоўцы прыдбаюць, калі стануць гаспадарамі на зямлі, будуць працаваць на сябе і прадукцыю прадаваць па цэнах, якія дае рынак. Тады яны змогуць купіць адзенне і бытавую тэхніку, мэблю і будматэрыялы, машыны і тэхналагічнае абсталяванне. Вось і запрацуюць заводы. Адным словам, аграрная рэформа будзе тым стартэрам, які і запусціць у дзеянне рухавік выхаду з крызісу.

**Яўген ЛУГІН.**

## Інфармацыя аб грашовай дапамозе БНФ з-за мяжы не адпавядае рэчаіснасці

Днямі ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі Беларусі са спасылкай на маскоўскія крыніцы была апублікавана інфармацыя аб тым, што літоўская партыя "Саюз Айчыны", якую ўзначальвае Вітаўтас Ландсбергіс, прыняла рашэнне аб грашовай дапамозе Беларускаму народнаму фронту. Быццам бы такім чынам літоўскія кансерватары спадзяюцца ўзмацніць унутраную апазіцыю рэжыму Аляксандра Лукашэнкі.

Каб праверыць гэтае паведамленне, карэспандэнт БелаПАН звязаўся па тэлефоне з кіраўніком фракцыі "Саюза Айчыны" ў літоўскім Сейме Андрусам Кубілюсам. Можаце ўявіць сабе ягонае здзіўленне згаданай публікацыяй! Ніякае рашэнне ні пра якую дапамогу Беларускаму народнаму фронту гэтая партыя не прымала, заявіў спадар Кубілюс.

Хлуснёй назваў лідэр фракцыі "Саюза Айчыны" не толькі сцвярджэнні аб рашэнні грашова падтрымаць БНФ, дадаўшы пры гэтым, што і самой літоўскай партыі сродкаў не хапае. Паводле ягоных слоў, дэзінфармацыяй з'яўляюцца і апублікаваныя ў беларускіх газетах звесткі аб намеры "Саюза Айчыны" аслабіць сувязі Беларусі з Расіяй, аб адабрэнні такой дзейнасці літоўскім урадам.

Прэс-сакратар Беларускага народнага фронту Сяргей Навумчык характарызуе згаданыя публікацыі як правакацыю, накіраваную на забарону дзейнасці Беларускага народнага фронту. Нагадаю, што напрыканцы 1994 года Міністэрства юстыцыі Беларусі вынесла БНФ першае папярэджанне ў сувязі з правядзеннем у Мінску ля опернага тэатра мітынгу. Другое папярэджанне, вынесенае на працягу года, аўтаматычна можа азначаць забарону дзейнасці гэтага руху. Справакаваць вынясенне такога папярэджання, на думку кіраўніцтва БНФ, і заклікана тая фальшыўка.

Намеснік старшыні БНФ Вінцук Вячорка, які з'яўляецца па прафесіі мовазнаўцам і валодае, апрача іншых, і літоўскай мовай, сцвярджае, што змешчаны пад адным з тых паведамленняў подпіс — "Іван Палаўчкас"— прыдуманы тымі, хто вельмі прыблізна ўяўляе сабе граматыку літоўскай мовы. Са слоў Вячоркі, у літоўскай мове такое прозвішча папросту немагчымае. Ён таксама паведаміў, што пры ўсёй пашане да партыі "Саюз Айчыны", якая паходзіць з ідэйна блізкага БНФ "Саюдзіса", і пры ўсёй пашане да Вітаўтаса Ландсбергіса фронт гады са два ўжо не мае з імі непасрэдных кантактаў.

**Алесь ЛІПАЙ.**

# Упершыню прысуджаны літаратурныя прэміі імя Алеся Адамовіча

## У ліку лаўрэатаў супрацоўнік "Народнай волі"

Алесь Адамовіч быў пісьменнікам-грамадзянінам, журналістам-змагаром. У ліку першых ён не пабаяўся адкрыць праўду пра вайну, пра Чарнобыль, дамагаўся, каб яго сумленнае слова праз газету, праз кнігу дайшло і да народа, і да ўлад.

Алесь Адамовіч для тых, хто ўзяў у рукі пяро, — прафесіянал вышэйшага гатунку, арыенцір. Менавіта таму Беларускі ПЭН-цэнтр (асацыяцыя пісьменнікаў) і Мас-Медыя-цэнтр вырашылі імем Адамовіча адзначаць лепшыя працы беларускіх аўтараў. 3 верасня, у дзень нараджэння пісьменніка, названы лаўрэаты літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча.

Першым лаўрэатам стаў вядомы публіцыст Анатоль Казловіч, які, дарэчы, працуе ў "Народнай волі" першым намеснікам галоўнага рэдактара. Журы адзначыла яго за цыкл эсэ-прытчаў "Беларусы паміж небам і зямлёй". Рэдакцыя віншуе свайго калегу, жадае яму і надалей трымаць высокі ўзровень у творчай працы.

Віншуем з прэміяй таксама калег-журналістаў Віталя Цыганкова, Валянціна Жданко, Паўла Шарамета, Анатоля Алая, Самсона Палякова. Усім лаўрэатам уручаны дыпломы, медалі з выявай Адамовіча і, вядома, грошы. Для журналістаў Беларусі, як кажуць, ёсць на каго раўняцца, бо ўпершыню ў практыцы прысуджэння розных літузнагарод улічваліся не палітычна-ідэалагічныя якасці прэтэндэнтаў, а толькі адно — прафесіяналізм.

**Мікалай ГАРЧАК,**
**карэспандэнт "Народнай волі".**

# Адноўлены судовы разбор паводле іска Зянона Пазьняка да Юрыя Азаронка і Белтэлерадыёкампаніі

6 верасня ў народным судзе Першамайскага раёна Мінска адноўлены судовы разбор паводле іска лідэра БНФ Зянона Пазьняка да аўтара паказанага вясной 1995 года беларускаму тэлегледачу фільма "Нянавісць: дзеці хлусні", рэжысёра Юрыя Азаронка і Белтэлерадыёкампаніі аб абароне гонару і годнасці.

Пасяджэнне суда пачалося з патрабавання суддзі Алы Яшчанкі не рабіць у зале ніякіх відэа- і фотаздымкаў, а таксама пакінуць залу ўсім, каму не хапіла крэслаў у спецыяльна выдзеленым для публікі, "груп падтрымкі" і г.д. месцы. Зала суда аказалася настолькі малой, што некаторым прадстаўнікам сродкаў масавай інфармацыі давялося ўладкавацца на лаве падсудных. Сам жа разбор па справе пачаўся з хадайніцтва адваката Юрыя Азаронка Валерыя Ярчака аб адводзе старшынствуючай у судзе Алы Яшчанкі, якая, па яго словах, "вольна або міжволі ўвайшла ў лік арганізатараў палітычнага працэсу". В.Ярчак абвінавачваў старшынствуючую ў тым, што яна "праявіла зацікаўленасць у вырашэнні справы, парушыўшы ўстаноўлены законам прынцып бесстароннасці, незалежнасці суддзяў, падпарадкаванасці толькі закону".

Амаль дзве гадзіны спатрэбілася членам суда для таго, каб прыняць рашэнне аб адхіленні хадайніцтва Ю.Азаронка і В.Ярчака і прадоўжыць слуханне па справе. Зянон Пазьняк удакладніў прымальную для яго форму аднаўлення свайго гонару і годнасці. "Мне неабходна выступленне па тэлебачанні аўтара фільма, які павінен сказаць: вобраз Пазьняка ў фільме "Нянавісць: дзеці хлусні" створаны прыёмамі відэамантажу і не адпавядае сапраўднасці", -- заявіў лідэр Беларускага народнага фронту.

Неабходна прызнаць, што і ісцец, і адказчык (маецца на ўвазе Ю.Азаронак і яго адвакат) даволі грунтоўна падрыхтаваліся да працэсу. Другі адказчык, прадстаўніком якога ў судзе быў намеснік старшыні Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Пётр Раманчук, колькі-небудзь істотнага ўдзелу ў судовым разборы не браў, абмяжоўваючыся кароткімі адказамі. Ю.Азаронак прадставіў суду шэраг архіўных матэрыялаў, у прыватнасці копіі артыкулаў з часопіса "Беларусь на варце", газет "Пагоня" і "Раніца", што выходзілі падчас другой сусветнай вайны. Менавіта на падставе гэтых матэрыялаў, па словах кінарэжысёра, ён і дазволіў сабе параўнаць і зманціраваць у фільме ўрачыстасці 25 сакавіка 1944 і 1945 гадоў. Пасля таго, як Ю.Азаронак заявіў, што падчас работы над фільмам ён не карыстаўся дапамогай якіх-небудзь афіцыйных структур і, у прыватнасці, Адміністрацыі прэзідэнта, адвакат З.Пазьняка Надзея Дударава прадставіла суду "суправаджальны дакумент" за подпісам начальніка Упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Замяталіна: "Адміністрацыя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь звяртае ўвагу кіраўнікоў усіх дзяржаўных устаноў на ўсялякае садзейнічанне рэжысёру Ю.Азаронку ў стварэнні фільма". Дакумент выклікаў бурную дыскусію паміж суддзёй, адвакатам адказчыка, Н.Дударавай і Ю.Азаронкам.

Завяршылася судовае пасяджэнне 6 верасня праглядам відэаматэрыялу -- копіі фрагмента з фільма "Нянавісць: дзеці хлусні", прадстаўленай ісцом, і фрагмента здымак мітынгу 25 сакавіка 1995 года, прадстаўленага адказчыкам. Слуханне справы прадоўжыцца.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

# Сацыял-дэмакраты ставяць пад сумненне магчымасць правядзення "круглага стала"

Сацыял-дэмакратычны саюз (СДС) лічыць, што ўказ прэзідэнта N336 "Аб некаторых захадах па забеспячэнню стабільнасці і правапарадку ў Рэспубліцы Беларусь" ставіць пад сумненне магчымасць дыялога паміж уладамі і палітычнымі арганізацыямі рэспублікі. У сувязі з магчымым правядзеннем "круглага стала" з удзелам улад, палітычных партый, грамадскіх рухаў каардынацыйны савет СДС прыняў заяву, у якой сцвярджаецца, што гэтая ідэя можа садзейнічаць аздараўленню маральна-палітычнага клімату ў краіне, выпрацоўцы ўзгодненай праграмы выхаду з эканамічнага крызісу, вырашэнню сацыяльных праблем і кансалідацыі на гэтай падставе грамадства. Аднак, як гаворыцца ў заяве, указ прэзідэнта N 336, якім прыпынена дзейнасць Свабоднага прафсаюза Беларусі, некаторых палажэнняў закона аб статусе дэпутата Вярхоўнага і мясцовых Саветаў, а таксама даручана пракуратуры ўзмацніць кантроль за палітычнымі партыямі, "ставіць пад сумненне магчымасць канструктыўнага дыялога паміж уладамі і грамадска-палітычнымі арганізацыямі".

**Юрась ДУБІНА,**
**БелаПАН.**

В коридорах власти

# В инспекторах Лукашенко будут ходить кадры Кебича

**Президентские структуры пополнились еще одной — инспекторской группой. Как считают эксперты, она создавалась, можно сказать, по образцу доперестроечных времен, когда в ЦК КПБ ряд ответственных работников был отмечен особыми полномочиями.**

Что интересно — в инспекторах Лукашенко будут ходить в основном кадры Кебича, которые когда-то хорошо постажировались вначале в отделе организационно-советской работы, а затем в Секретариате по делам территорий бывшего Совмина. Именно там получил закалку Владимир Буянов, нынешний инспектор по Витебской области. Теперешний "главный надзиратель" по Могилевской области — Иван Смыковский — также воспитывался в кузнице кадров Вячеслава Францевича. Как, впрочем, и Николай Попеко, Виктор Буйкевич, некоторые другие члены инспекторской группы.

**Аркадий КОРЯГИН.**

# Пасля судовых канікул Канстытуцыйны суд Беларусі ўзбудзіў тры справы па ўласнай ініцыятыве

Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня, усе тры справы, узбуджаныя органам канстытуцыйнага нагляду, тычацца прэзідэнцкіх указаў. Асабліва "пашанцавала" ўказу прэзідэнта N 336 "Аб некаторых мерах па забеспячэнню стабільнасці і правапарадку ў Рэспубліцы Беларусь": Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб паставіў пад сумненне канстытуцыйнасць яго першага і чацвёртага пунктаў і звярнуўся ў сувязі з гэтым у Канстытуцыйны суд, які вырашыў праверыць на адпаведнасць Канстытуцыі ўвесь указ цалкам. У прыватнасці, сумненне суддзяў выклікаў пункт 7, у якім сказана, што ўказ уступае ў сілу з дня яго падпісання, гэта значыць 21 жніўня; апублікаваны ж ён быў 1 верасня. А паводле існуючага заканадаўства, нарматыўныя акты, якія датычаць правоў чалавека, могуць уступаць у сілу толькі з моманту іх апублікавання.

Адносна яшчэ дзвюх спраў старшыня Канстытуцыйнага суда паведаміў, што яны ўзбуджаны 29 жніўня і тычацца ўказу прэзідэнта, якія выдадзены ў ліпені—жніўні гэтага года. Адзін з іх — "Аб удакладненні бюджэту Рэспублікі Беларусь на 1995 год і часовых мерах па скарачэнню бюджэтных расходаў". На думку В.Ціхіні, прэзідэнт перавысіў тут свае паўнамоцтвы, бо вырашэнне бюджэтных пытанняў з'яўляецца прэрагатывай Вярхоўнага Савета.

Старшыня Канстытуцыйнага суда таксама паведаміў, што прэзідэнт сваім указам "Аб аплаце працы службовых асоб некаторых дзяржаўных органаў" устанавіў службовыя аклады прадстаўнікам заканадаўчых і судовых органаў. Атрымалася, што адна з галін улады (у дадзеным выпадку выканаўчая) умешваецца ў дзейнасць іншых — заканадаўчай і судовай.

Валерый Ціхіня лічыць, што не ад добрага жыцця прэзідэнт выдае ўказы ў форме законаў: гэта вынік заканадаўчага вакууму, калі стары Вярхоўны Савет ужо амаль не працуе, а новы яшчэ не створаны. Але Канстытуцыя Беларусі гэтага не дапускае, і таму Канстытуцыйны суд, па словах яго старшыні, будзе імкнуцца ўнесці свой уклад у аднаўленне канстытуцыйнай законнасці ў рэспубліцы.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

# В Москве магазины завалены всякой всячиной, а в Минске гвоздей не купишь

По долгу службы мне недавно пришлось побывать в Москве. Честно говоря, не узнать теперь белокаменную. Идешь по какой-нибудь улице и думаешь: ты в бывшей столице СССР или где-нибудь на западе? Изменения замечаешь на каждом углу, особенно в магазинах. Кажется, есть все, что душа желает. При этом в переводе на валюту, многие товары дешевле, чем у нас.

Но может, и не взялся бы я за перо, если бы контраст между Москвой и Минском я не испытал на днях, как говорят, на собственной шкуре. Понимаете, понадобилось мне купить пару килограммов гвоздей. Заглянул в магазин "Хозяйственные товары", что по улице Козлова. Сказали, что таким товаром давно не торгуют. Поехал на улицу Якуба Коласа. Нет гвоздей. Махнул в "Хозтовары", что по улице М.Богдановича. Выбора никакого — есть только девяностомиллиметровые и короче. Узнал, что есть специализированный магазин в районе улицы Бельского. Добрался, но напрасно — имеются только шиферные. Намотал еще километров двадцать — и все впустую.

Что ж это делается, братцы? Дожились до того, что гвоздя не купишь.

Что же будет завтра?

**Анатолий КОРЖЕНЕВСКИЙ.**

Взгляд публициста

# Реставрация по-белорусски?

**Семен БУКЧИН**

Помните эти строчки из нашего классика? "Прыйдзе новы і мудры гісторык..." Кажется так... А вдруг он действительно придет, этот новый и мудрый? И захочется ему описать это время, в котором живем. И дать точное определение политической, общественной жизни нашей.

Разумеется, понадобятся документы. Среди прочих, тайных (если они сохранятся) и явных, не должен быть обойден этот, появившийся на страницах государственных газет в первых числах сентября. Название ("Главным редакторам газет, руководителям информационных агентств и других средств массовой информации Республики Беларусь") и подпись (президент А.Лукашенко) поначалу наводят на мысль, что мы накануне если не войны, то, по крайней мере, какого-то глобального события. Ибо звучит как с детства знакомое: "Работают все радиостанции Советского Союза!"

Но, слава Богу, уже первый абзац позволяет перевести дух. Оказывается, причина столь грозного обращения всего-навсего в том, что "некоторые средства массовой информации стали на путь прямого невыполнения положений Закона Республики Беларусь "О печати и других средствах массовой информации", которые касаются ответственности редакций и журналистов за доведение до населения правдивой и проверенной информации".

Как не выполняют положения? А вот так: "Отдельными редакциями искажаются результаты референдума, направленность внутренней и внешней политики государства, смысл и содержание ряда мер, принятых в системе образования, в обеспечении общественной стабильности в республике".

Итак, дело в "ответственности за доведение". Можно, конечно, не придираться к стилю. Известно: у готовивших это "послание" мозги устроены особым — бюрократическим — образом. А все-таки зря президент платит хорошие оклады заметалинским людям. Ей-Богу, даром хлеб едят. Ведь ни ступить, ни молвить не умеют... Поэтому нам вместо того, чтобы заняться другими серьезными делами, приходится открывать ликбез.

Перво-наперво заметалинским людям надо отправиться в Национальную библиотеку и попросить там книгу замечательного историка Михаила Лемке под названием "Очерки по истории русской цензуры и журналистики". Из нее они узнают, что на протяжении очень длительного времени не "некоторые", а весьма многочисленные "средства массовой информации" только тем и занимались, что не выполняли, искажали, а власть, в свою очередь, только тем и занималась, пытаясь загнать эти самые "средства" в соответствующие "рамки", проще говоря, за решетку. Что из этого вышло, также хорошо известно: всяческие неповиновения, бунты, революции. Поэтому умные власти в других странах давно поняли, что печать нужно освободить от всяческой государственной опеки. Она, печать, должна быть ответственна перед лицом общих для всех граждан, а не каких-то специальных законов.

Нет в Англии закона о печати. Но попробуй пусти клевету в газете — не только доброе имя, а состояние потеряешь. Но то Англия, страна, закостенелая в своей демократии. А Республика Беларусь более демократическое государство, поскольку у нас вся жизнь по полочкам расписана. Живем почти по Мандельштаму:

Как подкову дарит за указом указ —

Кому в пах, кому в лоб, кому в бровь, кому в глаз.

Правда, кому-то может показаться, что белорусский закон о печати — это по большей части закон о борьбе с печатью. Но это опять-таки на взгляд тех, кто искажает, нарушает, разжигает и т.д. Самое главное — давать "правдивую и проверенную информацию". А степень ее правдивости кто будет устанавливать? Наивный вопрос: конечно же, те самые люди, которые готовили президентское "послание" журналистам. Чиновники из администрации, из информационного управления, может, даже из спецслужб (если прикажут) будут определять, что правдиво, а что лживо.

Этот метод позволил сразу же установить, как сказано в том же "послании", что "искажается деятельность Контрольной палаты, Верховного Совета, Службы контроля президента"... Одним словом, чиновники, готовившие документ, считают, что их деятельность искажается. И попробуй оспорить. Заметалинские люди — последняя инстанция. Выше — только Бог. Но они и за Бога у нас говорят. Такая им власть дана. Тут и суды не нужны. В том же Конституционном суде ломают комедию: делают вид, что на серьезе обсуждают президентские указы. Прямо-таки буйное цветение демократии. До той поры, пока ОМОН в тот же суд не пришлют. Впрочем, пожалуй, и телефонного звонка будет достаточно. У нас народ ученый...

Но вернемся к "посланию". Если кого-то "искажают", то наверняка кого-то не по заслугам "возвышают"? Так оно и есть. В "послании" об этом четко сказано: "...и в то же время прямо или опосредованно рекламируются деятели сомнительных предпринимательских кланов, частных финансовых групп, политические лидеры, которые открыто проповедуют национализм, русофобию, разжигают противостояние в обществе".

Поистине ничто не ново под луной. Враги нужны. Срочно требуются враги! Но ведь никто поименно не назван. Эта "анонимность" заставляет вспомнить о сталинских временах, когда тоже сначала говорили намеками ("сомнительные кланы"), а потом шли аресты. Впрочем, не будем запугивать друг друга. Наша власть самая справедливая. Поскольку она от народа — сами выбирали. Поэтому репрессий, может, и не будет? Так, попугают... Как повозили по воинским частям и разным "конторам" Антончика. Придушат втихую. По-нашему. По-белорусски. Без лишнего шума. А приключения Антончика — это была репетиция. Как и тумаки депутатам в Верховном Совете. И ничего — сошло. Значит, можно: этому народу дай в зубы — он только утрется.

Сегодня власть просто предупреждает. По-хорошему. По-доброму. Дескать, уймитесь вы, обнаглевшие. Терпение-то наше не бесконечно. И впрямь, может, нам не следует заметалинских людей в библиотеку отправлять, а впору самим заглянуть в словарь. Есть там такое красивое слово — "интернирование". Президент играет в футбол, а кого-то в это время интернируют. Нормальная ситуация.

Чтобы не случилось самого плохого, президентское "послание" указывает верную дорогу, по которой всем нам следует идти. Наконец-то повеяло родным, до боли знакомым. Давненько мы не читали этого, бодрящего душу высокой заботой из уже подзабытых постановлений ЦК КПСС и ЦК КПБ: "Объективные, правдивые и конструктивные материалы о реальной ситуации в республике, о человеке труда, о высокой морали (!), о прошлом, современном и будущем белорусского народа все реже появляются на страницах газет, на телевидении и радио".

Ну не дармоеды ли, эти заметалинские люди? Предлагать президенту подписывать этакую жвачку. Такое уже стеснялись сочинять в идеологических отделах обкомов. "Потому и проиграли, что стеснялись", — скажет заматерелый идеологический ветеран. И будет прав. Потому что "высокая мораль" — это, знаете ли, не шуточки. Это может быть синоним "кодекса строителя коммунизма". А предложенная в том же послании "пропаганда человеческой честности, порядочности и ответственности перед народом и Отчизной" (бывает, оказывается, и нечеловеческая честность) это, видимо, аналог "пропаганды коммунистических идеалов". Ну и, разумеется, в центре — "человек труда". Как нам не воспеть его, едва сводящего концы с концами, работающего два дня в неделю на простаивающих заводах. Но это ничего, что заводы стоят. Ты, журналист, делай свое дело — воспевай.

А чего стесняться? Так бы и указали в "послании" — про "коммунистические идеалы". Недавно одна газета обрадовалась: президент, наконец, изрек про наш путь, идем, дескать, не куда-нибудь, а в "рыночный социализм". Карл Маркс ворочается в могиле. Какой вклад в теорию, а? И не где-нибудь, а в Горках сказано. Чтоб помнили.

Ну и, наконец, в "послании" ясно сказано, кому следует быть в роли недремлющих сторожевых псов при этих клятых средствах массовой информации. Поскольку разболтались эти самые средства "при определенной потачке со стороны Министерства юстиции, Министерства культуры и печати", что, конечно же, "не может быть терпимым и вызывает закономерную тревогу у большинства населения Беларуси".

Бедные министры! Несчастные министерские чиновники! Они уж и так стараются угодить президенту. Эту самую конституцию, как последнюю девку, используют. И так выкручивают и этак. Но у нас все-таки, как заметил недавно один разгневанный кинодеятель, "еще не Гаити". И не Греция эпохи "черных полковников". И не Португалия времен Салазара. Как любят у нас говорить, мы же в центре Европы. Можно сказать — самый пуп ее. А сидящему на пупе земли можно позволить себе в интервью "Известиям" в ответ на вопрос о возможном руководстве русско-белорусской объединенной державой заявить, что ему "достаточно этого куска (Беларуси. — **С.Б.**), чтобы его проглотить. Я еще его не проглотил. Дай Бог, за пять лет хоть как-то прожевать, образно говоря".

Паршивые националисты, прочитав это искреннее признание, конечно же, воскликнули: "Подавится он нашей Беларусью!" Мы же просто заметим: скромный человек, но каков аппетит!

Ну и после того, как погрозили кулаком, после этих могучих идеологических речей можно позволить себе немного расслабиться: "...Надеюсь на изменение атмосферы в информационном пространстве Беларуси во имя стабильности нашего общества, процветания белорусского народа!"

Ну это уж как водится! "Просперити" нам не миновать. Мы просто обречены на процветание. А иначе зачем и огород было городить? Все во имя человека и блага народа!

И хочется на демонстрацию. Чтобы вокруг летали шарики и алел кумач. Чтобы с трибуны, где стоят толстенные дядьки в шляпах, неслось оглушающее: "Да здравствует!" И обязательно это: "Привет славным труженикам советской печати! Ура!" А мы чтобы бежали перед ними и в ответ что-то восторженно орали.

Она еще может быть у нас, эта демонстрация. Мы еще, может, увидим небо в алмазах. Но сначала можем увидеть — в крупную клетку. История свидетельствует, что реставрация по-всякому проходит.

Трудно в облике белорусского президента разглядеть наследственные черты династии Бурбонов. Родовая французская аристократия вряд ли признала бы в шкловском директоре своего. А напрасно... После Людовика XIV только Лукашенко сегодня может с полным основанием заявить: "Государство — это я!" И возразить будет нечего.

Бурбоны дважды возвращались. А у нас еще только первая реставрация. Подождем... Хотя Июльская революция нам тоже ни к чему. Но, может быть, Лукашенко — все-таки два высших образования, одно из которых, кажется, историческое, — помнит, что 26 июля 1830 г. именно группа оппозиционных журналистов выступила с протестом против ордонансов. А уже 27 июля в Париже вспыхнуло массовое вооруженное восстание... Потому и давит, что помнит. Но ведь Минск не Париж. Хотя кто его знает, что может случиться в центре Европы...

# Чарговая ўборачная кампанія ў Гродзенскай вобласці не абышлася без няшчасных выпадкаў

**За чэрвень і жнівень у сферы аграпрамысловага комплексу вобласці здарылася 25 няшчасных выпадкаў, шэсць з іх — са смяротным зыходам.**

Тлумачыцца гэта ў першую чаргу тым, што работа па папярэджанню няшчасных выпадкаў у сельскагаспадарчай вытворчасці застаецца нездавальняючай. Асобныя кіраўнікі гаспадарак не выконваюць прадпісанні дзяржаўных інспекцый па працы. Толькі за першае паўгоддзе імі прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці амаль 400 службовых асоб, да 188 наймальнікаў прыменены штрафныя санкцыі, была прыпынена работа 900 адзінак тэхнікі і абсталявання, якія эксплуатаваліся ў стане, небяспечным для жыцця і здароўя людзей. За паўгоддзе сума штрафаў склала каля 100 мільёнаў рублёў.

**Антось ГАРАДЗЕНСКІ,**
**БелаПАН.**

# Курсы валют на 7 сентября 1995 г.

| Наименование банка | Доллар США | | Немецкая марка | | Российский рубль | | Телефон для справок |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Покупка | Продажа | Покупка | Продажа | Покупка | Продажа | |
| 1. Белбизнесбанк (гл. операц. управ.) | 11580 | 11850 | 7900 | 8250 | 2,20 | 2,60 | 067 |
| 2. Белбизнесбанк (городская дирекция) | 11570 | 11750 | 7900 | 8200 | 2,30 | 2,45 | |
| 3. Белвнешэкономбанк | 11600* | 11800 | 7900* | 8350 | 2,20 | 2,60 | 267-022 |
| 4. ФК "Вероника"*** | 11640 | 11800 | 8000 | 8200 | 2,44 | 2,54 | 531-504 |
| (за российские рубли) | 4650 | 4800 | | | | | |
| 5. "Дукат" | 11600* | 11850 | 7900* | 2,00* | 201-063 | | |
| 6. Ф-л "Милавица" АКБ "Дукат" | 11650* | 11850* | 7800 | 8200 | 2,30 | 2,50 | 372-825 |
| 7. Народный банк | 11550 | 11780 | 7930 | 8220 | 2,15 | 2,49 | 238-610 |
| 8. "Олимп" | 11580* | 11800 | 7818* | 8208* | 2,36* | 2,49 | 508-556 |
| 11700**2,58** | | | | | | | |
| 9. Ф-л N1 АКБ "Олимп" | 11600* | 11780* | 7900* | 8100* | 2,30 | 2,50 | 291-646, 067 |
| 10. Сбербанк | 11580 | 11900 | 7800 | 8150 | 2,00 | 2,50 | 067 |
| 11. Элитбанк | 11620 | 11820 | 7900 | 8100 | 2,40 | 2,60 | 313-050 |
| 12. Национальный банк РБ (курс для безналичных расчетов) | 11500 | | 7842,33 | | 2,58 | | |

Информация предоставлена агентством Гревцова.

# А Вечный огонь-то — не вечный

Вечный огонь, который вместе с памятником десятилетиями напоминал жителям деревни Дарево Ляховичского района о подвиге воинов Советской Армии, погибших в 1944 г. при форсировании реки Щара, вдруг... перестал быть вечным.

Несмотря на то что мы ликвидировали границу с Россией, которая в знак благодарности вроде бы должна "на халяву" обеспечить нас газом, огонь потух именно по причине дороговизны последнего.

Местный колхоз "Прогресс" расходы брать на себя уже не в силах. И никто не в силах. Поэтому принято решение зажигать огонь только по праздникам.

**Анатолий КРЕЙДИЧ.**

# Прадпрыемствы-даўжнікі будуць пазбаўлены энергазабеспячэння

Па звестках БелаПАН, агульны доўг Беларусі за электраэнергію, якая пастаўляецца з Расіі, па стану на 31 жніўня складае 406 мільярдаў 714 мільёнаў беларускіх рублёў. Аналагічны доўг Літве — 53 мільярды 86 мільёнаў.

Па стану на 1 верасня ў сувязі з хранічнымі неплацяжамі ў рэспубліцы пазбаўлены энергазабеспячэння 46 прадпрыемстваў са 115, маючых запазычанасць.

Не выключана, што колькасць прадпрыемстваў, пазбаўленых энергазабеспячэння, рэзка павялічыцца.

# Новые пошлины на автомобили

С 16 сентября вводится в действие постановление N 419 Кабинета Министров республики, которым утверждены новые правила провоза автомобилей через границу физическими лицами.

Тому, кто приобретет за границей иностранный автомобиль, на нашей таможне придется отдать по 5 ЭКЮ за 1 кубический сантиметр объема двигателя (1 ЭКЮ — 1,5 доллара США). Правда, если гражданин пробыл за рубежом более шести месяцев, он имеет право ввезти на родину без пошлины одну иномарку и один автомобиль, собранный в республиках бывшего СССР.

**Анна АРИСТОВА.**

Мини-интервью

# В детстве под руководством бабушки она устраивала домашние концерты, а сегодня поет песни на стихи классиков

**Еще в детстве Алеся под четким руководством бабушки устраивала концерты, где была и режиссером, и исполнительницей. А на сцену первый раз она вышла в восемь лет. Алеся принимала участие в передаче "Фестиваль, фестиваль". Потом — учеба в школе искусств. Судьба была благосклонна к ней и свела ее с "Сябрамі", где она работает и по сей день.**



— На конкурсе молодых исполнителей белорусского телевидения "13-08" вместе с Димой Смольским исполнила песню "У бацькоўскім кутку". Она и принесла нам успех. Из 150 звонков телезрителей 120 были "наши"... Потом были фестиваль "Золотая лира-93", где мы также получили наибольшее количество голосов.

**— Кто пишет для тебя песни?**

— Я сотрудничаю с композитором Николаем Сацуро из нашей студии "Сябры". Предлагает свои работы Игорь Лученок. В моем репертуаре появились песни на стихи классиков — Николая Тряпкина, Марины Цветаевой в переводе на белорусский язык. Песня Эдуарда Ханка на стихи Нила Гилевича "Жаўраначак" принесла мне большой успех — ее очень тепло встречают зрители.

**— А сама пробовала что-нибудь сочинять?**

— Нет. Пока постигаю песенную азбуку. Сейчас учусь в институте культуры.

**— Твой сценический образ?**

— Это и мое внутреннее состояние: веселая и грустная, немного наивная.

**— Ритм жизни?**

— Бешеный. Из-за многочисленных поездок не хватает времени. Отдыхаю редко. Но когда появляется свободная минута, сажусь на велосипед и — к речке...

**— А как ты относишься к слухам относительно ваших отношений с Дмитрием Смольским?**

— О! Дима Смольский был мне и братом, и любовником, и мужем...

**— Что нового на студии "Сябры"?**

— Открою секрет. Анатолий Ярмоленко собирается прекратить карьеру певца и начинает работать с молодыми исполнителями в качестве продюсера. Сейчас студия готовит к записи компакт-диск, где будут звучать песни как ансамбля "Сябры", так и молодых исполнителей.

**С Алесей беседовала**
**Алена ГОНЧАРОВА.**

